


# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 7 (35), сакавік 1993 г. Цана 3 рублі


## У НУМАРЫ:



### Увага, прыхільнікі нацыянальнага Адраджэння!

**19 сакавіка а 18-ай гадз. у беларускім аддзеле Віцебскай абласной бібліятэкі імя У. Леніна адбудзецца справаздачна-выбарная канферэнцыя Віцебскай гарадской філіі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Запрашаюцца сябры й прыхільнікі ТБМ.**



**Цяпер гэта ўжо гісторыя.** *Восеньскія Дзяды'90.*

## ВЕКАПОМНЫЯ ДАТЫ

### Да 75-ай гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі і яе незалежнасці

9 сакавіка споўнілася 75 год з дня абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

25 сакавіка мы адзначым 75-ыя ўгодкі з дня абвяшчэння незалежнасці нашай краіны.

Выканаўчы Камітэт Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады з гонарам падкрэслівае, што абвяшчэнне БНР і яе незалежнасці залатым радком упісана ў гісторыю беларускага сацыялістычнага руху.

Беларуская Сацыялістычная Грамада, адстойваючы інтарэсы свайго народа, усведамляла, што яго стваральныя сілы змогуць развіцца найбольш поўна тады, калі наша краіна стане самастойнаю дзяржаваю.

Першае, чаго жадала БСГ—гэта наданне Беларусі статусу аўтаноміі ў складзе Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі. Ідэю аўтанамізму паўнамоцныя прадстаўнікі народа сфармулявалі ў снежні 1917 года—у рэзалюцыі Усебеларускага з'езду.

Нягледзячы на тое, што бальшавіцкі ўрад Леніна апублікаваў Дэкларацыю правоў народаў Расіі, мясцовая бальшавіцкая арганізацыя катэгарычна выступіла супраць самавызначэння Беларусі. І гэта невыпадкова. Прызнаць аўтаномію нашай краіны бальшавікі не маглі таму, што гэта азначала б для іх страту ўлады: мясцовая камуністычная арганізацыя складалася амаль выключна з прышлых элементаў.

Пазней, калі ўрад Леніна салідарызаваўся з мясніковымі, ландарамі і кнорынымі, стала зразумела, што Дэкларацыя народаў Расіі абвешчана ў прапагандысцкіх мэтах. Бальшавікі ўлічвалі геапалітычны фактар. Праз Беларусь яны хацелі экспартаваць у Еўропу сваю рэвалюцыю.

Развалiўшы старую армію, бальшавікі пакінулі Беларусь сам-насам з Германіяй. У лютым 1918 года амаль уся наша краіна апынулася ў зоне нямецкай акупацыі. Кайзераўскі ўрад значную частку беларускіх земляў аддаў пад кантроль Украіны і Літвы.

У пачатку сакавіка 1918 года ўрад Леніна, не пытаючы волі беларускага народа, падпісаў у Берасці мірны дагавор з Нямеччынай. Наша краіна стала закладам пад шасцімільярдную кантрыбуцыю, якую Масква абавязалася выплаціць Берліну.

Абараніць правы Беларусі ўзяліся законныя прадстаўнікі народа, абраныя на Усебеларускім з'ездзе.

20 лютага 1918 года выканаўчы Камітэт Рады Усебеларускага з'езду сфарміраваў першы нацыянальны ўрад, які цалкам складаўся з сяброў Беларускай Сацыялістычнай Грамады.

9 сакавіка—пасля таго, як Масква ратыфікавала Берасцейскі дагавор,—Выканаўчы Камітэт Рады Усебеларускага з'езду абвясціў Беларусь Народнаю Рэспублікай.

Абвяшчэнне БНР было адказам на імперыялістычную палітыку бальшавіцкай Расіі і кайзераўскай Германіі.

9 сакавіка было абвешчана ўсеагульнае, прамое і роўнае выбарчае права, грамадзянам прадастаўляліся свабода друку, права ствараць палітычныя партыі, грамадскія арганізацыі, прафсаюзы, гарантаваліся права на забастоўкі, свабода сумлення, недатыкальнасць асобы і памяшкання, тайна перапіскі—усё тое, чаго народ быў пазбаўлены пры бальшавіцкім рэжыме. Зямля, яе нетры, лясы і воды абвяшчаліся ўласнасцю Рэспублікі. Зямля перадавалася ў спадчыннае карыстанне тым, хто на ёй працуе. У гандлі, сферы паслуг і прамысловасці захоўвалася

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

### Далучаемся да віншаванняў

**Днямі спаўняецца сорак гадоў беларускай рэдакцыі радыё «Свобода».**

З гэтай нагоды радыёстанцыя атрымала шэраг віншавальных тэлеграмаў, у тым ліку ад пісьменніка В. Быкава, прэзідэнта Беларускага ПЭН-цэнтра Р. Барадуліна, АДПБ, БНФ. Не абышоў увагай юбілей і старшыня ВС С. Шушкевіч.

Нашая газета таксама віншуе супрацоўнікаў рэдакцыі з круглаю датаю, зычыць ім поспехаў у пачэснай справе Адраджэння. Мы спадзяемся, што РС і РСЕ будуць і надалей весці свае перадачы дзеля ўсталявання дэмакратычнага ладу ва Усходняй Еўропе.

**Наш кар.**

## Настаўнік і вучань зноў сустрэліся ў Парыжы

Напачатку сакавіка ў французскай сталіцы адкрылася выстава нашых славутых землякоў—Ю. Пэна і М. Шагала—настаўніка і вучня. Карціны Марка Шагала дастаўлены ў Парыж з маскоўскіх Рускага мастацкага музея і Трэцьякоўкі. Арыгіналы сямі пэнаўскіх работ—з фондаў Віцебскага мастацкага музея.

Расказвае дырэктар музея Іна Холадава:

—Напрыканцы мінулага года ўладальнік парыжскай мастацкай галерэі сп. Пільтцэр наведаў Віцебск, дзе і была дасягнута папярэдняя дамова аб правядзенні выставы. Было вельмі шмат клопатаў, звязаных з яе падрыхтоўкай, адпраўкай карцін у Парыж. Давялося пераадольваць неразуменне і раўнадушша чыноўнікаў з Міністэрства культуры. Шмат дапамагала ў падрыхтоўцы і правядзенні выставы пасол РБ у Францыі Ніна Мазай. Нягледзячы на шматлікія праблемы, мы вельмі задаволены, што ўсё завяршылася паспяхова і выстава запрацавала 4-га сакавіка на Елісейскіх палях у прыватнай карціннай галерэі Джэральда Пільтцэра.

Да дня яе адкрыцця выйшаў 10-мільённы спецыяльны дадатак да газеты «Фігаро», прысвечаны гэтай падзеі. Выў выдадзены каталог, у якім ёсць і артыкул супрацоўніка мастацкага музея Аляксандра Лісава аб работах Юрыя Пэна.

Выстаўка маляўніча аформлена. У яе цэнтры, на фоне відаў Віцебска пачатку стагоддзя—аб'ёмныя фігуры Марка і Бэлы, з абодвух бакоў—работы Ю. Пэна і М. Шагала. Сярод прац Пэна з калекцыі нашага музея прадстаўлены ў экспазіцыі «Вуліца ў Віцебску», «Партрэт маці», «Стары салдат» і іншыя.

Выстава будзе экспанавацца на працягу 2-х месяцаў. Але ўжо зараз можна сказаць, што яна карыстаецца вялікай папулярнасцю ў парыжан і гасцей сталіцы Францыі.

**А. БУКАЧОЎ.**

**АД РЭДАКЦЫІ:** Карыстаючыся выпадкам, сп. Холадава прасіла паведаміць, што чуткі аб тым, быццам творы Ю. Пэна вывезены ў Ізраіль нейкім прыватным калекцыянерам, не адпавядаюць сапраўднасці, аб чым сведчыць, дарэчы, парыжская выстава.

# Й РАЗВАЛУ

якія абураюцца гэтым рабаўніцтвам, саджаюць у лягэрную турму (штрафны ізалятар). Уладзімір Сьцяпанаў, г. Томск, уст. ЯУ-114 4, 16—21 сакавіка 1992 г.». На жаль, выданьняў, падобных на гэты бюлетэнь, на Беларусі не йснуе. Аднак няма сумненьня, што ў гэтай галіне становішча ў нас ня лепей, чым у Расеі.

Куды ж глядзяць дзяржаўныя газэты, радыё, тэлебачаньне? А яны... рэклямуюць канкурэнтаў на пасаду прэзідэнта Беларусі Станіслава Шушкевіча й Вячаслава Кебіча. Навошта намэнклятуршчыкам спатрэбілася пасада прэзідэнта? Спадзяюцца турнуць нялюбага ім «пушчыста» С. Шушкевіча (на іх думку, ён адзін з чатырох галоўных віноўнікаў развалу былога СССР) і паставіць прэзідэнтам чалавека з іх «абоймы»—В. Кебіча. Гэтым і тлумачыцца праведзеная нядаўна кампанія, прысьвечаная 75-годзьдзю з дня нараджэньня П. Машэрава. Перад гэтым Васіль Драгавец—былы сакратар ЦК камсамола па ідэалёгіі й цяперашні начальнік Упраўленьня інфармацыі й грамадзкіх сувязей Савета Міністраў, альбо прэс-сакратар прэм'ера, загадаў безагаворачна растыражыраваць інтэрвію В. Кебіча «Наш Пётр Міронавіч» ва ўсіх буйнейшых газэтах і нават зачытаць па радыё. Толькі «Народная газета» не падпарадкавалася дыктату. Тады пачаліся захады, каб рэдакцыю газэты выкінуць на вуліцу («Народная газета» №№ 33 і 37 за 1993 г.). А адбылося тое таму, што ўсе афіцыйныя газэты з трыбухамі прадаліся ўраду. Вось вам і «свабода слова» і «свабода» атрымліваць і перадаваць інфармацыю! Асноўная мэта разгорнутай кампаніі—прадставіць В. Кебіча ў якасьці прадаўжальніка справў П. Машэрава. Ня трэба рабіць з Машэрава новага ідэала. Гэта ў яго часы зачыняліся беларускія школы, а беларуская мова паступова выціскалася з усіх сьфер жыцьця; разбураліся цэрквы, касьцёлы й іншае, што мы атрымалі ў спадчыну ад продкаў. Пры ім паўстаў нацыянальны нігілізм сёньняшняга пакаленьня. Расквітнелі партызанская проза й абэцэдаршчына.

Усё сьведчыць аб адным —аднавілася, з «дэмакратычнай» афарбоўкай, камуністычная манаполія на сродкі масавай інфармацыі. Гэта яўны рэгрэс, які супаў па часе з эксгумацыяй КПБ. Такое ўражаньне, што выкапалі нешта аблезлае, сьмярдзючае й мярзотнае. Якім смуродам запахла.

Все, кто погибли,—
истлели, в земле.
Все, кто боролись,—
пропали во мгле.
Все, кто терзали,—снова
при деле.
Все, кто дерзали,—
дожить не сумели.
Все, кто предали,—
продались опять.
Как же нам цепи
стальные порвать?

Те, кто поэтами были,—
убиты.
Те, кто убил их,—
довольны и сыты,
Все палачи на высоких
постах,
Пальцы в крови да и мед
на устах.
Кто убивал—убивает
опять.
Как же нам цепи
стальные порвать?
Жадный до власти—царь
или демон?
Правит по-прежнему
нами иль кем он?
Грязный осколок
бессовестной партии
С черного ход—в Храм
демократии,
Вместо народа решает
опять.
Как же нам цепи
стальные не рвать.

**(Верш В. Сальнікава й В Мацьвеева з маскоўскай газэты «Свободное слово» № 6(108) за 1992 г.).**

Што зьмянілася пасьля жнівеньскага путчу? А нічога. Цяпер ужо яскрава бачна, што адбылося пераразьмеркаваньне ўлады паміж камуністычнай намэнклятурай, якая (ўлада) перайшла у рукі гаспадарнікаў, чыноўнікаў і іх намэнклятурных дэпутатаў. Ім непатрэбныя зараз кампартыйныя білеты.

Давайце паглядзім на ўрад. Амаль усё ЦК КПБ на чале са старшынёй Савета Міністраў В. Кебічам (былы член бюро ЦК КПБ)! А што Вярхоўны Савет? А там 80% камуністаў! Зь іх каля 100 дэпутатаў атрымалі цёплыя крэслы ў Савеце Міністраў й цяпер маюць па два заробкі: як члены ўрада й як дэпутаты. Прыватызавалі дзяржаўныя кватэры, прадастаўленыя ім часова ў Менску на пэрыяд дэпутацкай дзейнасьці. Ім вельмі ўтульна. А навошта мяняць становішча? Лепш пакінуць так, як было.

І пасьля ўсяго гэтага зьяўляюцца «дзеячы», што абвяшчаюць аб прыходзе да ўлады нацыянал-дэмакратаў, якія: ажыцьцяўляюць нацыяналістычную палітыку, нанесьлі ўдар па КПСС, развалілі СССР? Які «востры» розум! Які палёт фантазіі! І такое кажуць тыя, хто спачатку вучылі нас па сталінскаму «Краткому курсу», а потым выкрывалі «культ личности» Сталіна; «пасьпяхова» будавалі камунізм, а потым ня меньш «пасьпяхова»—«разьвіты» сацыялізм; пачалі «перабудову», пасьля якой будуюць «дэмакратычны» сацыялізм. Ці верацы яны ў тое, што гавораць? Напэўна, не. Вось у чым галоўная сутнасьць матэрыялістычнай дыялектыкі й «научного» камунізму. Мэта гэтай балбатні—зноў абалваніць народ й завесьці яго ў камуністычна-савецкае стойла.

**Фактычна намі кіруе камуністычная, намэнклятурна-дзяржаўная мафія. Гэта яна сама (пад час змаганьня за ўладу), сваімі ўласнымі рукамі разваліла імпэрскія структуры КПСС і СССР (туды ім і дарога), абабрала народ, «прыхватызуе» дзяржаўную маёмасьць, а за нарабаваныя сродкі стварае камэрцыйныя структуры, раскрадае й развальвае нашу родную Беларусь.**

Наша грамадства знаходзіцца на мяжы поўнага распаду. Адзінае выйсьце—адхіліць камуністычную намэнклятуру ад улады, лепш за ўсё мірнымі сродкамі праз рэфэрэндум ці адстаўку Вярхоўнага Савета й ўрада. Пасьля гэтага правесьці выбары ва Усебеларускі Устаноўчы Сойм, які зробіць наступнае:

1. Прыме сапраўды дэмакратычную Канстытуцыю незалежнай Рэспублікі Беларусь.
2. Заменіць збанкрутаваўшую савецкую ўладу іншай, адпавядаючай жыцьцю.
3. Зьменіць тэрытарыяльнае дзяленьне Беларусі, ліквідуе вобласьці.

Рана ці позна пытаньне скліканьня Усебеларускага Устаноўчага Сойму паўстане з усёй вастрынёй. Альтэрнатывы яму няма, акрамя поўнага краха дзяржавы й грамадзства, да якога вядзе здрадніцкая палітыка камуністычнай намэнклятуры.

**Уладзімір ГУБСКІ, палачанін.**



**Цэны ўзнялі. Як жыць далей!**

# «Вынаходніцтва» акадэміка Ключнікава

**З навагодняга інтэрв'ю А. КЛЮЧНІКАВА**
(газета «Віцьбічы» ад 1 студзеня 1993 года):
—Ваш новогодний тост?
—Тост поднял бы простой: «За честность. И постоянство!»

З 1 лютага А. Ключнікаў ужо не рэктар Віцебскага тэхналагічнага інстытута. Першы ў Прыдзвінскім краі акадэмік, лаўрэат дзяржаўных прэмій, аўтар многіх вынаходніцтваў. Але ж сустрэўся я з Аляксандрам Сяргеевічам не па навуковых справах. Хацелася запытацца пра паспяховае вырашэнне яго асабістай праблемы жылля.

Наша газета пісала ўжо («Выбар» № 2 за 1992 год) пра будаўніцтва элітнага жылога дома па праспекту Фрунзе, 20. Дык вось, аказваецца, Аляксандр Сяргеевіч атрымаў ордэр на сваю будучую кватэру па сутнасці яшчэ... на фундаментах гэтага дома. Адначасова ў састрычніку 1991 года ён выпісаўся са службовай кватэры інстытута. І дзе ж акадэмік жыў увесь гэты час да апошніх месяцаў? Не на фундаментах жа на Фрунзе, № 20? Усё ў той жа інстытуцкай кватэры. І больш таго, што яшчэ «прыпісаў» шафёра службовага аўтамабіля ВНУ М. Бегунова, які па сённяшні дзень жыве ў інстытуцкім інтэрнаце па Маскоўскім праспекце. Зрабіў гэта Аляксандр Сяргеевіч, карыстаючыся сваім правам рэктара размяркоўваць службовае жыллё навучальнай установы. Але, напэўна, забыўся, што на такую справу патрэбна згода рэктарата і прафкама інстытута. А яе не было. 27 лістапада мінулага года на сумесным пасяджэнні прафкама і рэктарата было вырашана перадаць кватэру, у якой пражывае А. Ключнікаў (па вул. Праўды, 35), дацэнту В. Неўскіх, якая шмат гадоў стаіць у чарзе.

Аляксандр Сяргеевіч падтрымаў рашэнне! Падтрымаў, ведаючы, што ўжо больш года ў гэтай кватэры прапісаны шафёр яго службовага аўто. Прапісаны ў тайне ад прафкама і рэктарата па яго, Ключнікава, асабістай ініцыятыве.

Такім чынам, «Вынаходніцтва» акадэміка ў галіне маральнасці (навуковая тэма: «Свая кашуля бліжэй да цела») відавочна.

Гаворачы са мной, Аляксандр Сяргеевіч больш даводзіў, як шмат ён зрабіў для інстытута за пяць гадоў працы на пасадзе рэктара. І ўсё дзякуючы сваім сувязям і прадпрымальнасці. Пахваліўся, што асабіста знаёмы з С. Шушкевічам, М. Дзямчуком і іншымі кіраўнікамі рэспублікі. Мусіць, нейкая карысць ВТІЛПу ад гэтага была.

Сувязі, сувязямі, а як жа цяпер былы рэктар глядзіць у вочы сваім былым калегам, членам прафкама, дацэнту В. Неўскіх? Нічога на гэты конт не растлумачыў мне таварыш Ключнікаў. Чаму не называю яго спадаром? Аляксандр Сяргеевіч заявіў, што свой білет КПСС не выкінуў і лічыць сябе камуністам.

Не ведаю, па якому сёння прынцыпу ідзе падбор кадраў у ленінскую гвардыю. Калі там стаіць чарга на перарэгістрацыю, то просьба: Аляксандра Сяргеевіча Ключнікава прапусціце наперад. Ён партыі можа спатрэбіцца

**А. БУКАЧОЎ.**

*У мясцовых філіях*

## Падаў у адстаўку

Прайшла справаздачна-выбарная канферэнцыя Полацкай рады БНФ «Адраджэньне».

Задаволена заява сп. А. Куліка аб вызваленні яго ад пасады старшыні рады. Са складу народнага фронту выключана некалькі асобаў, у тым ліку дэпутат мясцовага гарсавета сп. А. Ігнатовіч.

Фронтаўцы абмеркавалі праграму падрыхтоўкі святкаванняў юбілею абвешчання БНР.

**Ю.Т.**

Іван ЛАЗУКА

## Прыстасаванец

*Каго ўкусіць, каго лізнуць,*
*Ён гэта ведае дакладна.*
*Усё ў яго так добра, ладна,*
*Яго нягоды абмінуць.*

*Вось чалавек умее жыць,*
*І можа ён своечасова,*
*Настойліва і адмыслова*
*Сваю ліслівасць прымяніць.*

*Заўсёды па цячэнню плыць—*
*Яго жыццёвая аснова,*
*І для яго зусім не нова*
*Свайго бліжэйшага ўтапіць.*

*Узняцца на касцях чужых,*
*Як кракадзілу плакаць потым,*
*Цішком смеючыся ў ахвоту,*
*І быццам бы сумленна жыць.*

*Пішу пра гэтых, бо і сам*
*У жыцці страчаў такіх нямала.*
*Вось з гэтымі сустрэч хапала,*
*Мяркую я, сябры, і вам.*






**СТАРОНКА ВІЦЕБСКАГА КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКАГА КЛУБА «УЗГОР'Е»**

**ВЫПУСК № 3**





*Відаць, здрыганулася сэрца таго, хто ўбачыў гэты здымак. Так, вобразы роднага дому не сцерці ў памяці. Але ці здрыгануліся «душы» тых, хто зруйнаваў цудоўны ансамбль на пл. Свабоды, які складаў частку яе паўперыметра, стваераючы вобраз мінулага горада?*

*На самой плошчы стаяў некалі сабор (вы бачылі яго знішчэнне на здымках з папярэдняй публікацыі Ігара Цішкіна). Не ведаю, хто спрабаваў ратаваць сабор, а гэты ансамбль не здолелі ўратаваць ужо мы. Па ініцыятыве аўтара гэтых радкоў ён трапіў нават у манаграфію праф. Ул. Чантурыі як цудоўны прыклад архітэктуры мадэрну ў Беларусі.*

*Знішчаны ў пачатку 80-х гадоў.*

*Ці пазнаюць віцябляне гэты выгляд на славутую ратушу? Так выглядаў дворык, утвораны зруйнаванымі ў 80-я гады будынкамі вакол яе. Арыгінальны прыём архітэктуры, адметны куток старога горада... А калі б яму еўрапейскі лоск? Зламалі. Пазней праўда, пасля настойлівых пратэстаў тых жа ўзгорцаў, будынкі «аднавілі», але сэнс існавання дворыка новыя дойліды не зразумелі, перакрэсліўшы ўвесь шарм усяго ансамбля.*

**Алесь МЕМУС**

# Аб гістарычнай памяці і «посильном вкладе» яе ворагаў

**(УСПАМІН ДРУГІ)**

У наш час агульнай дэградацыі будаўнічай культуры адбылася дэвальвацыя самых паняццяў «дойлід» і «майстэрства выканання». Масавы «стыль» будавання быццам выкрэсліў з кантэксту архітэктурнай творчасці асобу (як аўтара, так і майстра-выканаўцу), змазаўшы разам з тым і агульную адказнасць за тое, што паўсюдна будуецца. Архітэктура стала безаблічнай, а яе «творца» безымянным ананімам. Згубнасць такой з'явы другім канцом ударыла па архітэктурнай спадчыне нашых гарадоў, абясцэніўшы, па інэрцыі, і тую мастацкую каштоўнасць, што стварылі папярэднікі, сціраючы не толькі іх творчае натхненне і векавую культурную традыцыю будавання, але і самі імёны творцаў і майстроў.

Што можа стварыць безаблічная практыка шматгадовага будавання, акрамя такога ж безаблічнага горада, дзе ўжо нішто не ўсхвалюе душу, дзе не паселіцца ні легенда, ні казка, якімі поўняцца старадаўнія цэнтры чалавечае культуры, што завабліваюць да сябе тысячы паломнікаў, вядомых нязгаслай прагаю далучэння да таемнае глыбіні стагоддзяў? Але на такі шлях завялі нас манкурты, што, знішчаючы былое і абясцэньваючы нашу будучыню, карчавалі дзесяцігоддзямі духоўныя карані нашай нацыянальнай годнасці.

Толькі ў наш час «рэабілітацыі» культурнай спадчыны Беларусі ўзнікае нарэшце магчымасць «сцерці пыл» са справы рук былых стваральнікаў Віцебска, абараніць тое, што ацалела, маральна ўзвысіць зруйнаванае і абылганае за гады нацыянальна-культурнага тэрору. У кантэксце такога адраджэння сапраўднай гісторыі горада хацелася б адзначыць даследчыцкі агляд архітэктурнай спадчыны Віцебска, які робіць Л. Хмельніцкая, друкуючы ў перыёдыцы цыкл артыкулаў «Старыя дамы Віцебска».

Але нараджэнню новай гуманістычнай традыцыі доўгія гады папярэднічала «традыцыя» іншага кшталту, якую, друкуючы шэраг абвінаваўчых фотадакументаў, аўтар апошняй публікацыі ў «Старым горадзе» Ігар Цішкін назваў «неабвешчанай вайной супраць гістарычнай памяці нашага народа». Так, здымкі Ул. Антанішына, якія адлюстравалі разгул варварства ў нашым доме ў 50-я гады, уражваюць. Але гэта быў пачатак. Знішчалася найперш самае-самае, тое, што вянчала горад духоўнай каронай, што было велічным дакорам насіллю і глуму над святая святых чалавека, яго вераю, яго боскаю мараю аб вечнасці, бо прысутнасць увасобленага ў камені хараства калола вочы тым, хто прыйшоў сцвярджаць новую волю і новае «царства».

Абезгалоўлены горад быў асуджаны на знішчэнне. Дабіць астатняе было справаю часу, каб ужо канчаткова перакрэсліць усё разам, і памяць, і права на асобнасць, непадобнасць і незалежнасць цэлага народу. Так практыка паслядоўнай нянавісці да гістарычных прыкмет горада дажыла да нашых дзён. Услед за «гарачым летам 57-га» пацяклі зімы і леты 70-х і 80-х, якія паслядоўна і настойліва дэманстравалі тую ж зацятую (хаця і не такую адкрытую) вайну супраць нашай гістарычнай памяці.

Была нават створана адпаведная тактыка знішчэння кожнага будынка, калі чарговая ахвяра паслядоўна запушчалася, набываючы выгляд гэткай нікому непатрэбнай страшыдлы, потым абвяшчалася т. зв. аварыйнасць, высяляліся жыхары, рабіўся выгляд гатавання да капрэмонту, зрываўся дах (а разам і ўсё каштоўнае), а праз 3—4 гады «апрацоўкі» будынка дажджамі ды маразамі, калі ўжо віцяблянам рабілася страшна набліжацца да здзічэлых кварталаў, яны проста (з усеагульным уздыхам палёгкі) руйнаваліся, і ўсім рабілася «добра». Асабліва ж, вядома, дырыжорам такой маральнай экзекуцыі, якія тут жа выбіралі новую ахвяру. Паралельна з такімі дзеямі ў розум віцяблянаў паслядоўна ўкаранялася пачуццё непаўнацэннасці, другаснасці іх роду, заганнасці самой гісторыі іх горада, бо ці вартыя вы быць сабою ды мець нешта дасканалае сваё?—вы ж толькі зломак чужое велічы, толькі задворкі чужое гісторыі ды чужое культуры.

Так навязалі нам міф пра княгіню Вольгу, падкінулі стыль святкавання чужое гісторыі, шчодра аздобілі пустой феерыяй святыя даты знішчанай гісторыі горада, дабіваючы паміж юбілеямі рэшткі былое непаўторнасці і непадобнасці «древнего и... нерусского Витебска». Уявіце, як было весела назіраць тым «дырыжорам» д'яблава разгулу нашае мітуслівае імкненне далучыць сваю зняважаную «радасць» да гэтых «святаў» прыніжэння нашае нацыянальнае годнасці.

Так і жылі, «славілі» і знішчалі апошнія прыкметы, былое сапраўднае славы, святкавалі і здраджвалі на кожным кроку таму, на чым спажывалі, выпускалі буклецікі з карцінкамі апошніх прыкмет гістарычнасці Віцебска, і руйнавалі гэтыя прыкметы не заўважаючы, што ператвараем адзін з выдатнейшых цэнтраў горадабудаўнічае культуры нашае зямлі ў тыповае савецкае селішча, з тыповым савецкім самапачуваннем у ім.

Сёння ўслед за публікацыяй І. Цішкіна я запрашаю паважанага чытача «Старога гораду» зірнуць прасветленым вокам на прыкметы гэтага нашага «шанавання» свайго дому і ўспомніць тое, што многія ўжо канчаткова і лёгка забылі, а іншыя носяць цяжарам у абкрадзеных душах, ды даць рады свайму разуменню свайго горада ў кантэксце нашае невясёлае размовы. Хай зірнуць у вокны (як у вочы) сваіх ахвяр і тыя, хто прыклаў руку да іх знішчэння, і хто да гэтае пары грэецца ад цяпла прытуліўшага іх горада, у лёс якога ўнеслі і яны свой «посильный вклад».



Пакроўская царква (былы Трынітарскі касцёл). У такім стане ратавалі храм ад запланаванага знішчэння актывісты клуба «Узгор'е», якія сваімі сіламі вынеслі з яго дзесяткі тон бруду, што накідалі за гады камуністычнай улады, як у непатрэбнае месца тыя, хто «валодаў» будынкам на працягу 40 гадоў.



Будынкі канца XIX—пач. XX ст. ст., што займалі некалі значную частку вул. Савецкай. Знесены ў канцы 70-х, з мэтаю пабудовы на выгодным месцы прэстыжных кватэр для наменклатуры. Да іх разбурэння ўвесь квартал меў закончаны гістарычны выгляд.



Будынак на вул. Савецкай. Адзін з рэдкіх ужо ў горадзе прыкладаў сапраўды «шляхетнай» работы дойлідаў і майстроў-тынкоўшчыкаў. Але ён дажыў да нашае «рэстаўрацыі». Стаіць і сёння, надбудаваны хамскай работы паверхам, пазбаўлены «лішняе» ляпніны, прымазаны так-сяк неахайнаю рукою бязроднага «мазілы». Як ён выглядаў раней, можна яшчэ пабачыць на цудоўнай карцінцы, што малююць супрацоўнікі сп. Лядэнкі, але ім, відаць, няма справы да таго, як увасабляецца іх маляванне на практыцы.

Славуты некалі кляштар базыльянаў (сёння станкаінструментальны тэхнікум). На месцы разбуранага сабора (пазней Успенскага) паставілі будынак вопытнага завода (!), а сам кляштар з абрабаваным і знявечаным фасадам, разбураным высокім дахам і барочнымі франтонамі да цяперашняе пары «ўпрыгожвае» родны горад. Калі яму вярнуць страчаны выгляд, ансамбль упрыгожыў бы любую еўрапейскую сталіцу (але ці патрэбен ён Віцебску, судзіце самі...).



Так выглядаў, мо ўжо забыты віцяблянамі, стары будынак педінстытута (раней —мужчынская гімназія), дзе вучыўся дарэчы, гэтак «шануемы» сёння Пётр Міронавіч. Знішчаны ў пачатку 70-х гадоў. Адзін з капітальнейшых будынкаў XIX ст. у межах Старога горада.



Будынак на Рэвалюцыйнай, 12 (канец XIX—пач. XX ст.). У гэткім стане «красуе» ўжо ці не 10 год. Апошнім часам з'явіліся прыкметы «ўвагі» (узведзены рыштаванні). Што гэта? Рэстаўрацыя? Пачалі ж з таго, што напалову зламалі ўжо франтон, ды быццам здзек: на фасад прымацавалі знойдзены недзе лозунг «Решения XXVII съезда КПСС—выполним!». Знаёмы почырк, ці не праўда?



P. S. **Газетныя межы не дазволілі змясціць іншыя прыклады «посильного вклада» ўладароў горада ў яго гісторыю за апошнія два дзесяцігоддзі, але досыць красамоўна сведчыць за яго і тое, што прапанавана ўвазе чытача. Хацелася б толькі звярнуць увагу на назвы вуліц, дзе адбываліся акцыі расправы над гісторыяй горада: Революционная, Октябрьская, Суворова, Советская... Ці не сімвалічна!**

# Прытулюся да роднай маці-мовы

## Як мяне ад «Талакі» адвažвалі

**Неспрыяльныя грамадскія ўмовы заўжды змушаюць да з'яўлення непадцэнзурнага, вольнага слова, ананімнай літаратуры. Беларускай літаратуры, здаецца, самім лёсам наканавана самыя чытабельныя свае творы стварыць менавіта ў такія цяжкія часы: ва ўмовах нацыянальнага ўціску царскага самаўладдзя былі створаны паэмы «Тарас на Парнасе» і «Энеіда навыварат», у так нядаўнія застойныя гады быў створаны славутны «Сказ пра Лысую гару»... Найбліжэй да нашага часу стаяць ананімныя паэмы «Нарабілася бяды ў нядзельку на Дзяды» і «Як мяне ад «Талакі» адважвалі». Гэтыя творы, як відаць з іх назваў, прысвечаныя падзеям, якімі пачалося сучаснае наша Адраджэнне. Прапануем вашай увазе не толькі своеасаблівы дакумент эпохі, але і цікавы мастацкі твор.**

**Зміцер ДЗЯДЗЕНКА,**
**студэнт філфака БДУ,**
**г. Ворша.**

Я—спакойны,
Я—жанаты,
Невысокі,
Слепаваты.
Быў заўжды інтэлігентам,
А тут робяць дысідэнтам...
Я ў галоснасць быў паверыў.
Сорак год нямком я быў,
Лёс свой службай толькі мерыў
І нібы свабодным быў.
А бяда мая—дажыўся,
Як зачэпіш, дык баліць:
У дзяцінстве не вучыўся
Я па-руску гаварыць.
Каб вазіў я гной на ферме,
То не муляла б бяда
Там не ловяць, дзе хто п...е
І не цягнуць да суда.
Але ж вывучыўся, ліха...
У сталіцы жыць пачаў,
І не ўседзеш, браце, ціха,
Бо акцэнт мой выдаваў.
Трыццаць год мяне дражнілі
То за «трапку», то за «бруха»
І ад рогату аж вылі:
—Во, «калхознік», во—псяюха!
Я акцэнт таптаў, як мог,
Я пачаў быў заікацца—
Моўны так араў мурог,
Каб да іх прыбудавацца
«Трапку» з «брухам», «чурку» тожа
Неяк вывучыў, мой Божа.
Стаў вучыць другія мовы—
Малады быў і здаровы.
І цяпер па-беларуску,
Каб што правільна сказаць,
Я падумаю па-руску
Ды пачну перакладаць.
Я падумаю па-польску,
Па-украінску магу,
Па-нямецку, па-літоўску—
Свой акцэнт не берагу.
Час ішоў,
Застой стаяў,
Я з іх слоў
Перакладаў.
Пастарэў. Парвалі зубы.
Збудавалі ў роце мост.
І акцэнт на маю згубу
Аднавіўся на ўвесь рост.
Зноў рагочуць з вымаўлення,
Пасылаюць у калгас.
Перажыткам пакалення
Нараклі каторы раз.
Спрабаваў пад іншаземца
Маскавацца, колькі мог,
Пад казахскага хоць немца,
Хоць пад чорта, каб без рог.
Дзе ж і з кім пагаварыць,
Каб без смеху і без здзеку...
«Талака», чую, шуміць.
Яе выбраў замест лекаў.
Хлопцы мкнуць на Курапаты,
Я за імі... От, псямаць!
Я спакойны, я жанаты...
Дык за што ж мне штраф даваць?

Нёс я Берыі-падонка
На калу ў пенсне партрэт.
Ззаду дзеці йшлі і жонка—
Цэлы мой аўтарытэт.
А назаўтра, як укус:
Бух мне позвачку ў МУС!
«Мітынг ваш быў без дазволу
І без санкцый чынароў...»
«Але ж я не плёў крамолу...»
«Штраф плаці і будзь здароў!»
Сеў я дома і сяджу,
Жонцы ў вочы не гляджу.
Дзе паўсотні ты падзеў?
Мо згубіў, прапіў, праеў?»
«Новы век,—кажу,—харошы:
Не ўсё мерыцца на грошы.
Я й цябе завалаку,
Каб пачула «Талаку».
Зноў хадзіў на іх я сходы,
Слухаў мову, быццам спеў,
Чуў, што выйшаў я з народа,
Што загнаць хацелі ў хлеў,
Што дурным наш род рабілі,
Што па турмах нас гнаілі,
Што культуру заграблі—
Па Сібіры развязлі.
Каму ў рукі лом-лапату,
Разумнейшым—Курапаты.
Што раней мы гонар мелі,
Што пабілі мы татар,
А каб душы не чарсцвелі—
Быў у нас першадрукар.
Што сярод славян ці немцаў
Мелі мы аўтарытэт.
Не пускалі далей сенцаў,
Калі збройны лез валет.
Што не мы ў эмігранты,
Эмігрантамі—да нас!
Што акторы, музыканты
У нас зорны мелі час.
Што ў маскоўскіх камяніцах
Цуды нашае рукі.
Што за волю лезлі біцца
Часта нашы мужыкі.
Што забілі нам Купалу,
Што касцямі шлях услан
К Беламорскаму каналу,
І ў Нарыльск, і ў Магадан.
Што адвучвалі ад працы,
Што разбэшчвалі народ,
Пад дурных маскіравацца
Прымушалі не штогод.
Што «Мужыцкай праўды» слова
Актуальна і цяпер,
Што заплёваную мову
Не пускаюць на папер.
Што нам памяць адбівалі,
Сын на бацьку—упярод!
Што манкуртамі мы сталі,
Не калгас, а ўвесь народ.
Што ў яжовых рукавіцах
Матак маці пры нас,
Потым вешалі на спіцах—
Быў такі прыгонны час.
Што жуём мы хлеб і сала,
Што не спухлі без яды—

Селянін у нас удалы,
Як вярблюд той без вады.
Што раку г...м зглумілі
Што ні горад—то смурод,
Што Чарнобылем накрылі
Не раён, а ўвесь народ.
Што ў дурдоме без пуцёўкі
Кожны мог адпачываць.
Чужакоў блатныя і лоўкія
Слалі намі кіраваць.
Што па ўсёй па Беларусі
На пасадах і дамах
Вырай сеў, нібыта гусі,
І не згоніш трах-бабах!
Што дзе цэркаўка, касцёлік—
Парабілі МТС.
Да адзінкі ставяць нолік—
Называецца прагрэс.
Што пустыню на Палессі
Загадалі нам рабіць,
Што жаўрук у паднябессі
Не пяе, а просіць піць.
Што дзікунскія абрады
Дырэктывай людзям шлюць,
Што галоснасці мы рады—
Галасіць усім даюць.
Што пара людзямі звацца,
Каб далей не адставаць.
Нам за розум трэба ўзяцца,
Трэба перабудаваць...

Я ўсё слухаў. Я пасіўны.
Я былых эпох прадукт.
Сам з сабою—агрэсіўны,
А на людзях—пшык-патух.
Спор-дыскусію хацелі
Пра метро яны ўсчаць,
Думаў я, каб іх не з'елі,
Трэба, мусіць, памагаць.
Я аб'яву нашрайбоўў—
Тэкст спісаў з «ВМ» (газеты)
Ды на плот прымастакоўў,
А мне ў рэбры пісталетам!
Рукі ўзад, заткнулі рот,
Павялі далей, за плот.
Чую, зноўку будзе гуз!
Вунь і шыльду бачу: МУС.
—Што развешваў,—кажуць,—контра?
Недабіты ты нацыст!
А другі палкоўнік мондры
Кажа: «Ён шчэ пацыфіст!»
Я кажу: «Чытай аб'яву,
Што гаркам газеце даў.
Я ж, гэту праяву,
Слоўца ў слоўца перадраў».
Бачу: ведаюць, рагочуць,
Дурня строяць на вачах.
А чаго канкрэтна хочуць?
Наганяюць толькі страх.
Штраф—бабах! Ідзі дамоў,
Каб без лозунгаў і слоў!
Зноў!
Зноў зарплаты палавіну
Жонцы я не аддаю....
А каб вас у дамавіну,

Татку-матку вашаю...
Зноў схадзіў да «Талакі».
Там навін, як блох у сукі:
Камсамолу не з рукі—
Дык прагнаў іх зноў на мукі,
На бадзякі па двары...
Хто арэ, а хто жарэ...
Нехта зноў пушчае хмары,
Нехта цуглямі ўшчаміў,
І пра Сталіна зноў марыць,
Каб скарэй бандзюк ажыў...
Ох трывожна, зноў трывожна:
Гандляры даюць байкот:
Хай гніе, купіць не можна,
На цвічок чапляй банкнот.
Тык, магчыма, правіянт
Дасць чылійскі варыянт!
Зверху нехта бласлаўляе:
Трэба крызіс, трэба гнеў.
Перастройка вам якая?
А ну кыш назад у хлеў!
З цяжкай думкай мкну дадому
А насустрач санаваты:
—Табе позвачка, сляпому!
Пойдзеш, гніда, у салдаты!
Як? За што? Дык не вайна!
У газетах—раззбраенне...
—Для тибя путя одна.
Воспитають без сомненья!
—Белы маю я білет,
Саракоўка за плячамі...
Ваенком сказаў: «Привет!
Утром быть, как все, с вещами!»
Папсавалі мне настрой.
Я да доктара, браточкі:
—Палячы, харошы мой,
Мне хваробы, як цвяточкі.
Тут абсцэс, радыкуліт
Язва, нырак палавіна,
Печань, сэрца і гастрыт—
Кандыдат для дамавіны.
А яшчэ я тут няўрокам
Акрывеў вось правым вокам,
Дзесяць год—чаму не знаю,
А кульгаю і кульгаю.
У атаку пабягу—
Справа стрэльнуць не змагу.
Злева—у руку параліч...
Хоць жану да войска кліч...
Доктар піша мне даведку
Па латыні... Цёмны лес!
Ставіць нейкую пазнетку
І кіруе ў сабес.
Каб здаровы вы былі:
Ёсць жа праца на зямлі!
Інваліднасць мне далі!
Сунуў кніжку ваенкому,
А ён змрочны ўвесь сядзіць,
Быццам мордай аб салому
Так губамі шамаціць:
—Дуй адсюдова, калека!
Нагарыць мне, нагарыць...
Клятву даў, што чалавекам
Буду я цябе рабіць...
Зноў іду да «Талакі»,
А яна ўся ў мундурах!

Значыць, быў загад такі
Тых высокіх, змрочна-хмурых.
Але ўсіх не заграблі:
У «Талацэ» былі і бабы,
І старыя гарбылі,
І як я, здароўем слабы.
Хтось быў вылаяўся матам:
Сесці б дзе, пагаварыць.
—А пайшлі ка мне дахаты,
Чаем можна замачыць...
Ну прыйшлі. Частую чаем.
Сэрца чуе і баліць.
Аж у сенцы выклікаюць—
Міліцэйскі ўзвод стаіць!
—Што за мітынг! Што за сход?
Пачаму ў цябе народ?
—П'ём. Хто чаю, малака?
—Мітынг гэта! «Талака»!
—Шагам шморг! За спіну рукі!
Разберомся на судзе.
Мо хто возьме на парукі...
А суседзяў, а людзей!
Нас вядуць, як арыштантаў,
Як крамолу пры цары.
Служкі хоць без аксельбантаў—
Падабенства, чорт бяры!
Следчых куча, пракурораў,
Дык за што вас замялі?
Крымінальны знаем нораў.
—А мы толькі чай пілі!
Лысы шэф гукае знізу:
Я з вас выціску тут соль,
А ну ўсіх на экспертызу:
Трыпер, СНІД і алкаголь!
Нас круцілі і свяцілі,
Бралі пробы на хваробы.
Не знайшлі і адпусцілі,
Бо ідэйныя вантробы.
Ім распуста толькі сніцца,
Мы для іх што быдла, зэкі.
Ім бы з бабай ды напіцца,
Пахмяліцца зноў на лекі..
А ў нас чаго нап'ешся,
Як з зарплаты смальнуць штраф
Вунь, з-пад крана, дык зальешся...
Толькі гонар, быццам граф.
Толькі думкі, толькі мова,
Толькі вочы, каб глядзець.
Толькі розум, толькі слова,
Ну, бо ім таго не мець.

Супраць кучкі ставяць войска,
Школяць тайны апарат.

Угаворваюць па-свойску,
Што дурны я, пень і гад.
Я ж ніхто. Жыву пад здзекам.
А хачу быць ЧАЛАВЕКАМ.

Пра аўтара:
Не быў,
Не служыў,
Не выязджаў,
Не маю,
Не выбіраўся,
Не ўзнагароджваўся,
Не судзіўся,
Не ўдзельнічаў,
Не падвяргаўся,
Нідзе,
Ні з кім,
Ніяк,
Нікога,
Няма.
Прашу ўсё гэта ўлічыць.

**Паўлюк ЗАДЗІРАСТЫ.**

*Лісты чытачоў*

## Кожная птушка мае свой шчэбет

Кожны звер мае свой голас, кожная птушка—свой шчэбет. Але беларуса пераконваюць, што беларуская мова—гэта не яго ўласная, што патрэбна другая дзяржаўная—руская мова. Такім абаронцам рускай мовы хачу запярэчыць. У Расіі зараз жыве не менш беларусаў, чым у нас рускіх. Ці многа там адкрылі беларускіх школ? А ў Беларусі большасць школ—з рускай мовай навучання.

Паколькі беларуская мова ўзаконена як дзяржаўная, а закон трэба выконваць—таму тыя, хто не прывык прытрымлівацца законнасці, і ўзнімаюць пытанне, якое не варта выедзенага яйка. Мабыць, яны спадзяюцца распачаць міжнацыянальны канфлікт. А потым павінна ўмяшацца Масква, паколькі «ўшчамляюць правы рускіх».

Не пройдзе гэты нумар! Асобныя адшчапенцы, можа, знойдуцца, а большасць насельніцтва не падтрымае. І па адной прычыне. У Беларусі ніхто не прымушае рускіх гаварыць па-беларуску. Закон аб мовах мусіць у першую чаргу выконваць чыноўніцтва. Большасць жа на маю думку, і надалей будзе карыстацца «трасянкай». А паколькі бюракрату беларуская мова цяжэй за кітайскую, то ён надрывае галасавыя звязкі: маўляў, адбудзецца раскол грамадства, ад увядзення беларускай мовы каўбасы ў магазінах больш не стане і г. д. Каўбаса ў іх на першым плане. Але многія крыкуны крадуць народную маёмасць у такіх памерах, што просты люд праз які год-два застанецца, як кажуць, гол, як сакол.

І калі сёння ў нас цяжкае становішча, то вінавата ў гэтым не беларуская мова, а той, хто кіруе народам, той, хто не хоча выконваць свае законы, раней прынятыя, і вядзе усіх нас у бездань.

**М. КУПАЛІН,**
Аршанскі раён.

## Ідэя, што яднае ўсіх

**БСДГ сур'ёзна рыхтуецца да выбараў. Такую выснову, зробленую нашым карэспандэнтам некалькі тыдняў назад, яшчэ раз пацвердзіла чарговае паседжанне Віцебскай гарадской філіі Грамады.**

У шэрагах мясцовых грамадоўцаў ужо з'явіліся прэтэндэнты на ўдзел у будучых выбарах не толькі ў якасці выбаршчыкаў, але й кандыдатаў у дэпутаты. Пакуль яны рыхтуюцца да выбарчай кампаніі, віцебскія сацыял-дэмакраты выпрацоўваюць агульную стратэгію і асобныя моманты тактыкі ў выбарах.

Як і раней, БСДГ насцярожана ставіцца да буйной буржуазіі (вось толькі пытанне: ці ёсць яна на Беларусі?).

Пагэтаму галоўны акцэнт у перадвыбарнай праграме будзе рабіцца на сацыяльныя гарантыі працоўных, на дапамогу сярэднім ды дробным прадпрымальнікам. Аднак апошнім—з умовамі. Без падтрымкі буржуазіяй ідэй нацыянальнага Адраджэння, без яе лаяльнасці да Беларускай дзяржавы, сацыял-дэмакраты не збіраюцца падтрымліваць капіталістаў.

На першы план у перадвыбарнай прапагандзе, адзначыў кіраўнік гарадской філіі У. Дубавец, мы павінны высоўваць ідэю эканамічнай стабільнасці. Цяперашні крызіс ненармальны, штучны. Да таго ж ідэя стабілізацыі гаспадаркі блізкая ўсім, яна з'ядноўвае грамадства.

**М. КАЛІНОЎСКІ.**

*Лісты чытачоў*

## ШАНОЎНАЯ РЭДАКЦЫЯ!

Ваш намер зрабіць газету «Выбар» штотыднёвай—справа вельмі ўдзячная. У чытачоў, для якіх яна стала добрым сябрам, з'яўляецца магчымасць часцей сустракацца з ёй.

Мне зразумелая трывога наконт цэн на паперу, на паслугі друкарні. Яны ставяць рэдакцыю ў нялёгкае становішча. Можна крыху прыўзняць цану на газету. Сапраўдны чытач, якога не пакідаюць абыякавым справы на Віцебшчыне, эканамічнае і палітычнае становішча, клопаты аб адраджэнні роднай мовы і культуры, не пашкадуе колькі там рублёў.

Затое газета цяпер зможа публікаваць і аператыўныя матэрыялы, якія раней з-за даволі рэдкай перыядычнасці выхаду, некалькі страчвалі сваю актуальнасць.

І зусім справядліва, што мы, чытачы, павінны падтрымаць «Выбар» паведамленнямі з месцаў. Як бы там ні было, але ў нашыя дні ў кожным раёне Віцебшчыны, у кожным горадзе адбываецца нямала падзей, якія, без сумнення, зацікаваць многіх чытачоў. Тым больш, што ўсё яшчэ даюць адчуць сябе гады і культу, і застою, а дэмакраты няпроста знайсці сабе дарогу ў нашай кансерватыўнай вобласці, ды і не толькі ў ёй.

З павагай! **Іван ЛАЗУКА,** г. Сянно.

*Вакол культурна-рэлігійнага жыцця*

## «У Пушкіна». У галерэі

Калі Віцебску і не суджана стаць палітычнаю сталіцаю Беларусі, то культурнаю—напэўна наканавана. Горад паціху-патроху пачынае канкурыраваць з менскім культурным асяродкам.

Напрыклад, хутка віцябляне змогуць (думаю, не без гонару) сказаць: маем і мы прыватную мастацкую галерэю.

Дзякуючы ініцыятыве й руплівасці ўласніка галерэі, вядомага віцебскага мастака Алеся Пушкіна, дапамозе нашае эміграцыі і мясцовых фундатараў, места Віцебскае атрымае першую прыватную галерэю сучаснага мастацтва.

Адкрыецца яна напярэдадні святкаванняў 75-ых угодкаў абвешчання БНР 24 сакавіка ў (не здзіўляйцеся і не спазняйцеся!)... 0 гадзін 53 хвіліны ў старым горадзе, на трэцім паверсе дома нумар два на старажытнай Узгорскай (пакуль Суворава).

**Н. КІЛДЗІНГ.**

●

*Як ужо ведаюць нашыя пастаянныя чытачы, у Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі праходзіла выстава віцебскага мастака А. Мемуса. Музей зрабіў даволі рэдкі для сучасных беларускіх майстроў пэндзля крок—набыў тры працы мастака—«Трыо» (1987), «Дзве сухія ружы» (1989) і «Сведкі даўняе вясны» (1991).*

**На здымку:** *карціна «Дзве сухія ружы».*

●



## Мы не бедныя на таленты

Менская «Мастацкая літаратура» парадавала аматараў прыгожага пісьменства зборнікам «Дзвіна. Віцебшчына літаратурная». У кнігу ўвайшлі паэзія, пераклады, проза, успаміны, гумар 69 аўтараў—нашых землякоў.

**Ю.Т.**

## Хіт кнігарні

**Вялікі інтарэс даследчыкаў гісторыі, этнаграфіі, краязнаўства, а таксама ўсіх тых, хто цікавіцца беларушчынай, выклікала перавыданне твора беларускага пісьменніка - этнографа Паўла Шпілеўскага «Путешествие по Полесью и белорусскому краю».**

Шпілеўскі ў сярэдзіне мінулага стагоддзя вандраваў з Варшавы на ўсход, на Беларусь. Вынікам гэтых паездак стаўся цэлы шэраг прац, у тым ліку і «Путешествие...», якое з'явілася ў пецярбургскім «Современнике» ў 1853—1855 гадах.

Твор, на які ў сваіх доследах абапіраліся шматлікія беларускія навукоўцы, у XX ст. практычна не перавыдаваўся. І вось урэшце падарунак-перадрук і вучоным, і аматарам роднай культуры, мовы, гісторыі зроблены ў серыі «Літаратурныя помнікі Беларусі» менскім выдавецтвам «Полымя».

**Ю. С.**

*Гэта наша гісторыя*

# У ВЫТОКАЎ

На гістарычнай арэне славяне ўзнікаюць раптоўна. У VI ст. аб іх з'яўляюцца пісьмовыя звесткі і ў той жа час назва «славяне». Як быццам адразу нараджаецца пэўны гістарычны вобраз народа і тэрыторыя яго аднaзначна вызначаецца ўсімі гістарычнымі крыніцамі. Для даследчыкаў таксама адразу з'яўляецца і «археалагічны эквівалент» славян VI ст.—культура пражскага тыпу. Зрэшты і лінгвісты маюць дастаткова фактаў, каб сцвярджаць, што славянскія плямёны размаўлялі на адной мове, якая пазней распалася.

Самыя ж раннія звесткі аб рускіх (русах, росах) з'яўляюцца не раней IX ст. Дык хто яны? Як узніклі, адкуль прыйшлі? Для высвятлення пытання аб паходжанні славян выкарыстоўваюцца тры крыніцы: археалогія, мова і пісьмовыя помнікі.

Археалогія і антрапалогія сведчаць аб тым, што 12—10 тыс. гадоў таму ўслед за ледавіком на поўнач рухаліся мезалітычныя (сярэдняя частка каменнага веку) родавыя групы паляўнічых і рыбакоў (напрыклад, стаянка на беразе возера Мяжа Гарадоцкага р-на). Некалькі пазней з Прыўралля і Заўралля на захад пранікаюць нешматлікія групы паляўнічых і рыбакоў мангалоіднага тыпу, якія прасунуліся да берагоў Фінскай затокі (стаянка Кунда недалёка ад Кохтла-Ярве, якая датуецца 7-ым тысячагоддзем да н. э.). Пазней жа, у перыяд ранняга металу, на тэрыторыі Беларусі насельніцтва было выключна індаеўрапейскім.

З цягам часу ў мясцовасці, якая з поўдня прылягала да Балтыйскага мора, фарміруюцца розныя плямёны з блізкімі дыялектамі, агульнымі для продкаў славян і балтаў (балтамі зараз з'яўляюцца літоўцы і латышы). Да сярэдзіны I тысячагоддзя да н. э., верагодна, працягвае існаваць яшчэ дастаткова аморфная ў моўных і культурных адносінах агульнае протаславянска-балцкае асяроддзе. Археалагічна яно прадстаўлена культурамі ранняга жалезнага веку лясной зоны.

Па адной з версій, у паўднёвай частцы зоны распаўсюджання гэтых дыялектаў у нейкі гістарычны момант частка насельніцтва адасабляецца, і мова, на якой яно размаўляе, пачынае фарсіравана развівацца і набывае спецыфічныя славянскія асаблівасці. Славяне, якія не так даўно належалі да розных плямёнаў з рознымі мясцовымі назвамі, з характэрнымі асаблівасцямі гаспадарча-пабытовага ўклада і культуры, з нейкага моманту ўсвядамляюць сябе славянамі.

Археалагічныя, моўныя і гістарычныя даследаванні пісьмовых помнікаў паказваюць, што прарадзімай славянаў была лясная зона ў межах паўночнай Украіны, паўднёвай і сярэдняй Беларусі і прылягаючых раёнаў.

Кераміка, тып жытла, пахавальны абрад, упрыгожванні, язычніцкія свяцілішчы пераканаўча сведчаць аб гэтым.

Доказы таго ж знаходзім у славянскіх мовах, якія адрозніваюцца ад іншых індаеўрапейскіх моваў назвамі расліннага свету (кветка, ягада, елка, ліпа, асіна, авёс, жыта, лён і г. д.), што сведчыць аб добрым знаёмстве са змешаным лесам Усходняй Еўропы, які, відаць, быў іх прарадзімай. Спачатку славяне жылі далёка ад мора. Гэта відаць з таго, што ў славян мора калісьці азначала балоцістую мясціну, возера. Вострававам быў лясны востраў ці лясное ўзвышша сярод балота. Не ведалі яны і гор. Гарой зваўся і завецца ў беларусаў пакрыты лесам узгорак, высокі бераг, любы верх увогуле (прыгадайце «гарышча»). Адсутнічаюць назвы, якія звязаны са стэпавым ландшафтам. Кавыль, балка, яр, корсак, тушканчык—з цюркскіх моваў. Слова «стэп» ва ўкраінскай мове з'явілася толькі ў XVI ст. Да гэтага было толькі «поле».

У старажытных пісьмовых крыніцах славяне выступаюць пад назвай венеды. Пра гэта пісалі ў старажытнай Грэцыі Гесіод у VII ст. да н. э., у V ст. да н. э. Герадот, у I ст. н. э. Пліній Старэйшы ў «Натуральнай гісторыі». Пісьменнікі VI ст. Іордан і Пракопій кажуць, што сучасныя ім славяне насілі раней імя—венеды.

Нашы продкі ў той далёкі час абыходзіліся без пісьменнасці і таму не захавалі сваёй гісторыі і саманазвы. Але тыя ж грэкі згадвалі, што на поўнач ад скіфаў жыў народ неўраў, які шанаваў змеяў і верыў у ваўкоў-пярэваратняў. Змяіныя культы і вера ў ваўкалакаў існавалі ў беларусаў да самага нядаўняга часу. Да таго ж на Беларусі і зараз існуюць вёскі з назвамі Наўры, Наўране. Не выключана, што «наўры» і была саманазва нашых продкаў.

Такім чынам, лінгвістычныя і першыя пісьмовыя крыніцы лакалізуюць славян прыблізна на той жа тэрыторыі, што і археалогія.

З рубяжа новай эры частка жыхароў той зоны, якая акрэсліваецца як прарадзіма славянаў, прыходзіць у рух і займае прастору Сярэдняй і Усходняй Еўропы. Тэрыторыю Беларусі займаюць балцкія плямёны. Па меркаваннях сучасных даследчыкаў на поўначы сучаснай Беларусі і ўсходняй Латвіі (Латгаліі) жыла латыгола. Паміж Нёманам і Віліяй, на Свіслачы, Росі, Ясельдзе (Яцвязі)—яцвягі, а таксама лотва. Некаторыя даследчыкі лічаць, што поўдзень Беларусі займалі балцкія плямёны з верхняга Прыдняпроўя, якія прыйшлі сюды на месца славянаў, што ў гэты час адышлі са сваёй прарадзімы на Дунай. Але на мяжы VI—VII ст. ст. н. э. пачынаецца славянскае засяленне ці вяртанне на радзіму, на землі, занятыя балтамі. Засяленне сучаснай Беларусі славянамі ішло з поўдня на поўнач і з захаду на ўсход. Гэты працэс працягваўся, верагодна, некалькі стагоддзяў, у выніку чаго дрыгавічы (драговічы), якія рухаліся з поўдня на поўнач, рассяліліся паміж Прыпяццю, Дняпром і Дзвіной. Пасожжа засялілі радзімічы. Пра радзімічаў паданне паведамляе, што яны прыйшлі «ад ляхаў», а імя роданачальніка было Радзім. Самым шматлікім славянскім племем, якое рухалася з захада на ўсход і асела на тэрыторыі ад Панямоння да Кастрамскога Паволжа і ад Пскоўскага возера да верхняга Сожа і Дзясны, было племя крывічоў.

Усё гэта не магло не прывесці і да своеасаблівай этнічнай рэвалюцыі. З пачатку сумеснага жыцця з балтамі, там, дзе славянская культура накладвалася на балцкую, пачынаецца самазараджэнне беларускага народа. Там, дзе славянская культура накладвалася на угра-фінскую (як у Верхнім Паволжы, на тэрыторыі, занятай мурамай, мяшчэрай і іншымі старажытнымі народамі)—утвараецца руская народнасць. Славяне, якія асімілявалі цюрка-іранскія народы на поўдні, утварылі ўкраінскую народнасць таксама са сваёй адметнай мовай і псіхалагічным складам.

Асімілёўвалі не толькі славяне балтаў, але ў шэрагу выпадкаў было і наадварот. Нават у XIX ст. у Латвіі ў Земгале яшчэ жылі крывіны. У сярэдзіне стагоддзя яны былі поўнасцю асіміляваны латышамі. Таму нельга пагадзіцца з тым, што працэс асіміляваня закончыўся ў XII—XIII вяках. Ён ішоў на працягу ўсёй нашай гісторыі.

Культурная і моўная сувязь балтаў і славянаў абумоўлена старажытнай балта-славянскай агульнасцю і доўгім суседствам. Немалаважнае значэнне мела і аднолькавасць рэлігійных вераванняў. Славяне і балты былі язычнікамі. У пазнейшы час у станаўленні беларускай нацыі значную ролю адыгрывалі эканамічныя і палітычныя сувязі на тэрыторыі Беларусі паміж рознымі яе раёнамі.

**В. АРЛОЎ,**
**старшыня гарадской рады ТБМ.**

